


Галінка Якімюк з Чыжоў. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 22 (1085) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 28.V.1978 г.

**Ю. Каваль**

# БУЛЬБЯНЫ САБАКА

**(Заканчэнне)**

— Трэба курыцу абскубсці, — сказаў дзядзька Акім. — Распальвай вогнішча.

Пакуль я вазіўся з вогнішчам, дзядзька Акім ачысціў курыцу і хутка ў катле забулькаў суп. Я памешваў яго доўгай лыжкай і стараўся абудзіць сваё сумленне, але яно драмала.

— Паабедаем, як людзі, — сказаў дзядзька Акім.

Дзіўна было сядзець ля вогнішча ў нашым садзе. Вакол цвілі сады, а ў нас — вогнішча, зялёная трава.

Паеўшы, дзядзька Акім падвесіў над агнём чайнік і заспяваў:

Что стоишь, качаясь,
Тонкая рябіна...

Тузік ляжаў ля яго ног і задумліва слухаў, варушыў вушамі, быццам баяўся прапусціць хоць слова. А калі дзядзька Акім дайшоў да слоў „но нельзя рябіне к дубу перебраться“, на вочы Тузіка набегла сляза.

— Гэй, там! — пачулася раптам.

Ля брамкі стаяў чалавек у саламяным капелюшы.

— Хто тут гаспадар?

— Праходзь, зямляк, — сказаў дзядзька Акім. — Чаго праз плот крычаць.

— Няма чаго мне ў вас рабіць, — злосна сказаў гаспадар курыцы, але на панадворак увайшоў.

— Сядзем, пагутарым, — казаў дзядзька Акім. — Колькі вы курэй трымаеце? З дзесяць?

— „Дзесяць“, — хмыкнуў гаспадар, — дваццаць дзве было, а цяпер вось дваццаць адна...

Дзядзька Акім выцягнуў з каструлькі звараную бульбіну, абабраў яе, сказаўшы: „Смачная“. Ён падаў яе гаспадару курыцы. Той узяў бульбіну, пасаліў і надкусіў.

— Смачная бульба, — памяркоўна сказаў ён. — Як вы яе вырошчваеце?

— Мы ніяк не вырошчваем, — засмяяўся дзядзька Акім, — таму што мы працаўнікі бульбянога складу. Нам правізія належыцца. Насып сабе колькі трэба.

Дзядзька Акім паглядзеў на мяне.

У чалавека няшчасце: наш сабака з'еў яго курыцу. Няхай насыпле, колькі хоча, каб душа не балела.

* * *

На другі дзень я купіў у краме парадачны ланцуг і прычапіў ім бульбянога сабаку да елкі.

* * *

Аднак душа ў гаспадара курыцы ўсё-такі відаць балела. Аднойчы раніцай каля нашай брамкі паявіўся міліцыянер. Ён доўга чытаў плакат пра бульбянога сабаку і нарэшце адважыўся ўвайсці.

Тузік сядзеў на ланцугу і, вядома, здалёк заўважыў міліцыянера. Ён нацэліўся на яго вачыма, хацеў было грозна забрахаць, але чамусьці раздумаў. Дзіўная рэч —

ён не брахаў і не рваўся, каб разарваць увайшоўшага.

— На гэтага сабаку паступіла заява, што ён душыць курэй. А вы гэтых курэй з'ядаеце.

— Толькі адну курку, — удакладніў я. — За якую ўжо заплачана.

Сяржант хмыкнуў і зноў пачаў разглядаць Тузіка.

Міралюбна віляючы хвастом, Тузік павярнуўся да сяржанта правым бокам, потым левым бокам, як да фатографа.

— Вельмі гэта мірны сабака, — заўважыў я.

— А чаму ён бульбяны? Гэта што, парода такая?

Тут я дастаў з кішэні бульбіну і кінуў яе Тузіку. Тузік спрытна перахапіў яе ў лёце і культурна з'еў.

— Дзіўнае стварэнне, — падазрона сказаў сяржант. — Сырую бульбу есць. А пагладзіць яго можна?

— Можна.

Толькі тут я зразумеў, які ўсё такі Тузік вялікі акцёр. Пакуль міліцыянер вадзіў рукою па нячэсаным загрыўку, бульбяны сабака скромна закрыў вочы і віляў хвастом, як робяць гэта хатнія сабачкі. Я нават падумаў, што ён лізне міліцыянера па руцэ, але Тузік стрымаўся.

— Дзіўна, — сказаў міліцыянер. — Казалі, што ён вельмі злы, усіх шарпае, а я яго гладжу.

— Тузік адчувае добрага чалавека, — не стрымаўся я.

Міліцыянер страхнуў з далоняў сабачы пух і працягнуў мне руку:

— Будзем знаёмы.

Мы паціснулі адзін другому рукі, і міліцыянер накіраваўся да варот. Праходзячы каля Тузіка, ён нахіліўся і па-бацькоўску патрапаў сабаку.

— Ну, малайчына, малайчына...

І вось тут, калі міліцыянер павярнуўся спіной, пракляты бульбяны сабака-ілгун раптам стаў на заднія лапы і страшэнна гаркнуў міліцыянеру ў самае вуха. Пабялеўшы міліцыянер адскочыў убок, а Тузік упаў на зямлю і рагатаў да слёз, качаючыся на спіне.

— Яшчэ адна курыца, — крыкнуў здалёк міліцыянер, — і ўсё!

* * *

Але больш не было ні курэй, ні заяў. Лета скончылася. Мне трэба было вяртацца ў горад, а Тузіку — на бульбяны склад.

У той год у садах пахла грыбамі, а ў лясах — яблыкамі.





## Птушыныя галасы



У гаі салоўка
Заспяваў,
Зашчоўкаў.
— Фію-так,
Фію-так, —
Адгукнуўся
Ў садзе шпак.
Жаўрукі
Каля лясочка
Зазвінелі,
Што званочкі.
І шчабеча
Ластаўка
Ў чыстым небе
Ласкава.
Перапёлка
Ўсіх прасіць
Стала гэтак:
— Жаць-касіць!

А зязюля
На суку
Адказала ёй:
— Ку-ку!..
— Дра-дра, —
Горла драў
Драч гарласты
Паміж траў,
Так стараўся,
Напінаўся,
Ледзьве голас
Не сарваў.
На сасонцы
Невысокай
Сойка
Сварыцца
З сарокай:
— Чэ-чэ-чэ!
— Крэ-крэ-крэ!

Хто сварлівых
Разбярэ?..
Ды абрыдла
Гругану
Слухаць
Гэту гаману.
Закрычаў
Як гаспадар:
— Годзе!
Сціхніце!
Кар-р, кар-р!
І заціхлі
Раптам птушкі,
Анямелі весялушкі,
А праз момант
салаўі
Зноў зашчоўкалі
Ў гаі.
І не змоўкнуць
Да відна —
Не баяцца
Гругана.

## Верабейчык



Плача, плача
Верабейчык,
Сам маленькі,
Як каменьчык,
Шараваценькі,
Рудаваценькі:
— Што за гора,
Што за ліха,
Дзе матулька-
вераб'іха,
Хто мне есці дасць
І піць,
Як галоднаму мне
жыць?..
Цік-чывяк,
Цік-чывяк —
Хоць бы трапіўся
Чарвяк!..
Прыляцела

Вераб'іха:
— Ціха, сынку,
Ціха, ціха...
Што ты скачаш,
Што ты плачаш,
Вось чарвяк;
Хіба не бачыш?..
Зацілікаў
Верабейчык,
Сам маленькі,
Як каменьчык,
Дзюбай-носам
Пакруціў:
— Вельмі смачна,
Ціў-ціў-ціў!
Толькі мала,
Вельмі мала...
Прынясі
Яшчэ мне,
Мама!

**А. Дзеружынскі**



**Эдзі Агняцвет**

## ШЧОДРЫ ЦІШКА

*На гармоніку губным*
*Цішка наш іграе:*
*— Ці-лі, ці-лі, ці-лі-тым, —*
*Доўга не сціхае.*
*Просіць Ганка брата Цішку:*
*— Можа, я пайграю крышку?*

*— Ці-лі, ці-лі; ці-лі-тай,*
*Тры гадзінкі пачакай!*

*На паліцы год ляжыць*
*Маляванка-кніжка.*
*— Не чапай яе! — дрыжыць*
*Шчодры хлопчык Цішка.*

*І ў адказ гаворыць Ганка:*
*— Дай мне дзірку з абаранка,*
*З камізэлькі — рукавы,*
*Волас з брытай галавы!*

*— Я не дам! — злуецца*
*Цішка. —*
*Адчапіся ты, малышка!*

*— Цішка, глянь, а вось цукеркі*
*У сярэбраных паперках...*
*— Мне аддай, сама не еш,*
*Ганка, зубкі папсуеш!*

**Міхась Машара**

## БЯРОЗКА

Вясёлая бярозка,
зялёная мая!
Прыгожую прычоску
дала табе вясна.

Адна ты на паляне,
над быстраю ракой,
і вецер распяяны
сябруецца з табой.

Уплятае табе ў косы
шаўковы паясок,
цалуе стан бялёсы
вясковы пастушок.

А раніцаю сонца
гуляе па лістку
і гладзіць па галоўцы,
як родную дачку.

Святкуючы, дзяўчаты
прыходзяць да цябе.
Здаецца, што сястра ты
дзяўчатам і вясне.

А колькі часу месяц
губляе над табой,
як ты галінкі звесіш
над соннаю ракой.





# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## САМЫ ВЫСОКІ ЧАЛАВЕК

Гісторыі вядомы імёны людзей, якія адрозніваліся незвычайным ростам. Напрыклад, рост імператара Рымскай імперыі Максімільяна быў 2м 50 см, немца Канстанціна, які жыў у XIX стагоддзі, — 2м 60 см, шатландца, які служыў у войску прускага караля Фрыдрыха II (XVIII ст.), — 2 м 62 см. Рэкорд гігантызму ўсіх часоў належыць рускаму Махнову, які жыў у пачатку XX стагоддзя. Яго рост — 2 м 85 см.

Сярод жанчын самай высокай была швейцарка Ама — 2 м 33 см.

## КОЛЬКІ КРОКАЎ ЗА ДЗЕНЬ

Чалавек робіць за дзень у сярэднім 20 тысяч крокаў. За год — 7 мільёнаў, а за 70 год — амаль 500 мільёнаў. Такім чынам, за ўсё жыцце чалавек мог бы дзевяць разоў абысці ўсю зямлю па экватары або паканаць адлегласць ад Зямлі да Месяца.

## ШТУЧНАЯ ПАПЕРА

Незвычайную белую „паперу" ўдалося зрабіць без адзінага грама драўніны на охцінскай фабрыцы „Пластпалімер" у СССР. Папера, зробленая на аснове поліэтылена, прыдатна для друкавання кніг і газет.

Спецыялісты задумалі атрымаць і поліэтыленавую фотапаперу. Час яе апрацоўкі скароціцца, таму што гэту паперу не трэба сушыць.

## 500 КМ НА ГАДЗІНУ

Японскія спецыялісты пабудавалі прататып лакаматыва на магнітнай падушцы, які, як мяркуюць, зможа развіваць максімальную хуткасць 500 кіламетраў на гадзіну. Такія паязды ў будучыні стануць канкурэнтамі самалётаў.

## 15 КМ У ГЛЫБ ЗЯМЛІ

На Кольскім паўвостраве, на далёкай поўначы еўрапейскай часткі Савецкага Саюза, зроблена бурыльная шчыліна на 15 км у глыб зямлі. Гэта найглыбейшая бурыльная шчыліна на свеце, зробленая ў цвёрдай пародзе.

## СОНЕЧНАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

Швейцары апрацавалі праект сонечнай электрастанцыі для горных раёнаў. Галоўнай часткай абсталявання з'яўляюцца люстры з агульнай плошчай 500 тыс. квадратных метраў. 10 тысяч такіх люстраў пастаўлены на плошчы ў 1,1 квадратнага кіламетра.



# Пазнаёмімся

* ✲ *

БССР, 220092, г. Мінск-92, вул. Адоеўскага, 20, к. 1, кв. 2. Іра Сокалава, вучаніца чацвёртага класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 56, кв. 1. Люда Татаржыцкая, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Советская 252, кв. 78. Іре Поликарповой, дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

Аліцыя Прычыніч, вучаніца восьмага класа, 17-200 Гайнаўка, ул. Лесьна, 10а.

* ✲ *

Міраслаў Прычыніч, 12 гадоў, 17-200 Гайнаўка, вул. Лесьна, 10а.

* ✲ *

Яніна Ежык, 16 гадоў, 17-200 Гайнаўка, пасёлак Міленіум, вул. Каханоўскага 6.

* ✲ *

Барбара (16 гадоў) і Цэліна (15 гадоў) Станапедзіс, 17-200 Гайнаўка, пасёлак Міленіум, 11/19.

* ✲ *

Анатоль Банькоўскі, вучань восьмага класа, 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 28 квартал, д. 21, кв. 39. Сергею Яковлеву.

* ✲ *

СССР, 370052, г. Баку, ул. Ага-Нейматула, дом 73, кв. 38. Татьяне Балаян.

* ✲ *

Крыся Міхалюк, вуч. чацвертага класа, в. Барок, 6, пошта 17-205 Новаберазова, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Аліна Топур, вуч. трэцяга класа, в. Барок. 7, пошта 17-205 Новаберазова, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Р. Люксембург, 80, кв. 89. Жана Кудрашова, вучаніца дзевятага класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 2, кв. 21. Света Сасновіч, вучаніца шостага класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 2, кв. 22. Іна Калтунова, вучаніца шостага класа.

* ✲ *

БССР, 220039, г. Мінск-39, Слуцкая шаша, д. 62, кв. 465. Лера Юдзіцкая, вучаніца пятага класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 3. кв. 40. Наталля Прыземіна, вучаніца дзевятага класа.

* ✲ *

Аліна Мінько, вучаніца шостага класа, вёска Гарадзіска 15, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 373250, г. Баку, пос. Хырдалан, 28 квартал, дом 20, кв. 16. Зарифе. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

СССР, 373250, Аз. ССР, г. Баку, пос. Хырдалан, кв. 27, дом 2, кв. 27. Есаян Вале. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.




**Б. Харчук**

## ОЙОЙОЙКА

У старым плоце — дзірка. Юрка і Саша панадзіліся хадзіць праз яе да дзедка і бабкі ў госці. Ніякая сіла не можа прывучыць іх хадзіць праз брамку. Адзін лезе, другі папіхае. Культых! — і на падворку.

— А мы ўжо тут!

Думаў-думаў дзедка, што рабіць: забіў дзірку. А ім што — адбілі.

Пачала думаць бабуля. Напякла пірагоў, паставіла на стол, а потым вышла на двор, пахадзіла каля праклятай дзіркі, чакае.

Пачулі ўнукі, што пірагамі запахла, і да дзіркі. Сашка шусь — ды як заверашчыць: „Ойо-йой!" Юрка яго падпіхае, а той назад. Вырваўся, пачырванеў. Хукае на рукі, на калені. Тады Юрка палез пад плот, і таксама ў крык: „Ой! Ойо-йой!"

А бабуля смяецца:

— І што гэта там за ойойойка такая ўзялася? — кажа. — Я ж зусім не ойойойкаю, а крапівою тое месца пасыпала, каб вы не лазілі тут на каленках і на жыватах.

* ✲ *

Ірынка намалявала будынак, каля яго сад, у садзе квецце. Пагляздзеў на малюнак бацька і пытаецца:

— Ірынка, а чаму ж ты неба не намалявала?

— Але ж яно далёка.

* ✲ *

Раніцай Марыйка прыйшла да мамы:

— Мама, ці сёння ні ў каго імянін няма?

— А што? — не разумее мама.

— Торта хочацца...

* ✲ *

Тата кажа малому Славіку:

— Калі ты будзеш паслухмяны, я завязу цябе на месяц да бабулі.

— А што, яна на Месяцы жыве? — са страхам пытаецца Славік.

* ✲ *

**Настаўнік.** Які гэта час: я бегаю, ты бегаеш, ён бегае, яны бегаюць...

**Вучань.** Перапынак.

## АДГАДАНКА





*Паглядзі на малюнак і хуценька скажы, на якім з іх больш чорных крэсак.*

**Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950** Białystok ul. Wesołowskiego 1